

# Дзяньніца
# Dziańnica

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ ГРАМАДЗКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ" ЛІПЕНЬ 2000 № 7

## *У сёньняшнім нумары:*

***Галоўны гарадзкі гадзіньнік спынены і ў гэтым рэдакцыя "Дзяньніцы" ўбачыла фатальны знак.***

* * *

***Пачуўшы прозьвішча гэтага сьпевака многія з тых, чыя маладосьць прыпала на канец 60-х — пачатак 70-х гадоў, абавязкова пасьміхнуцца і ў гэтай усьмешцы будзе скразіць сумота і настальгія па даўно мінулых часах. Валеры Абадзінскі — а мы вядзем гаворку, вядома ж, пра яго — фігура шмат у чым трагічная. Такія песьні, як "Усходняя", "Анжэла", "Гэтыя вочы насупраць", "Неадпраўленае пісьмо" грымелі паўсюдна, жанчыны плакалі на яговых канцэртах; здавалася, Абадзінскі будзе сьпяваць да скону, і раптам прозьвішча гэтае зьнікла з канцэртных афішаў. Сьпявак, у вадрозьненьне ад Кабзона ды іншых савецкіх скальдаў, адмовіўся сьпяваць "песьні грамадзянскага гучаньня", а таму і скончыў кар'еру начным вартаўніком.***

* * *

***Родныя палестыны наведаў Сяржук Сокалаў-Воюш. Сябры Супольнасьці "Ўсяслаў Чарадзей" сустрэліся з былым навапалачанінам.***

* * *

***Крытычна не прааналізаваўшы памылкі недалёкага мінулага, мы асуджаны паўтарыць іх у будучыні. Аўтар "Дзяньніцы" прыгадвае падзеі сямігадовай даўніны.***

* * *

***Чальцы Супольнасьці "Ўсяслаў Чарадзей" выказваюцца наконт мэтазгоднасьці правядзеньня Ўсебеларускага зьезду.***

* * *

***Фальклёрны гурт "Княжыч" наведаў дняні Беласточчыну.***



Хто з нас, навапалачанаў, ня бачыў нехлямяжага "мастацкага пано", што вісіць на гарвыканкамаўскім будынку. Вісіць яно там ня першы год — пад дажджом і сонцам дарэшты выліняла і пакарабацілася, ніжні фрагмэнт адарвала ветрамі, тым ня менш, няма ў сьвеце сілы, якая змагла б прыбраць з вачэй гэты "элемэнт эстэтычнага аздабленьня горада".

Згаданае "пано" — рудымэнт мінулай эпохі. За бальшавіцкім часам на фасадах гарадзкіх будынкаў не было вольнага месца: усе яны былі залепленыя выявамі правадыра сусьветнага пралетарыяту ды будаўнікоў камунізму — дэбілаў з квадратнымі сківіцамі й шалёнымі вачыма, якіх малявалі пад трафарэт халтуршчыкі з "мастацкіх" майстэрняў. У вапошняе дзесяцігодзьдзе ўсю гэтую "манумэнталістыку" прыбралі з людзкіх вачэй і толькі на галоўным наваполацкім будынку яно па-ранейшаму "аздабляе" навакольле, стоена ляскаючы пры кожным парыве ветру.

Аздабляюць гарвыканкамаўскі будынак ня толькі творы манумэнтальнага жывапісу, але й спаруды электроннага веку. Гадоў пятнаццаць таму на пляскатым даху зманціравалі сьветлагазэту, на якой, аднак, так і не загарэлася аніводная лямпачка, ну а гадоў дзесяць таму да фасаду прымацавалі электронны гадзіньнік, які даўно ўжо не паказвае часу. Галоўны гарадзкі гадзіньнік спыніўся і да таго няма справы ні ўладнай "вэртыкалі", ні безуладным дэпутатам, ні шараговым грамадзянам. Зрэшты, спыніўся час ня толькі на будынку Наваполацкага выканкаму. Спыніўся ён, насуперак законам фізыкі, на ўсёй Беларусі. І адно пытаньне завісла ў бясчасьсі: ці знойдзецца Чалавек, які зьдзьмухне пыл усеагульнай апатыі і бяспамяцтва і скране зь месца стрэлкі беларускага гадзіньніка?

***В.Б.***

# ВАЛЕРЫ АБАДЗІНСКІ




Яна нарадзілася, гэтая песьня, сінім адвячоркам, у тлумным, працятым пахам поту і таннай парфумы клясе. Нарадзілася не адразу: напачатку з прайгравальніку вырываўся мерны рып — усё адно, як карова жавала храбусткое сена, потым, аднекуль здалёк, даляцелі гітарныя акорды \трын... дэбі-дэбі-дэбі... трын... дэбі-дэбі-дэбі... трынч... трынч... трынч\ і салодкі, надрыўна-прыдушаны голас пакрыў гітарнае брынканьне, каровіну жуйку і бязладную гаману ў нашым, "хлапечым" канцы кляснага пакою.

— Льё-ёт ли тёплый дождь, падает ли снег...

Самыя сьмелыя з нас пайшлі запрашаць на танец "дам", хтосьці пстрыкнуў выключальнікам і ў прыцемку яшчэ ня згаслага вечару мне прымроіўся той самы цёплы дождж. Буйныя кроплі дажджу лапаталі па лісьці, бязважкімі падзёнкамі мітусіліся ў арэоле вулічных ліхтароў, зыркімі зьнічкамі ляцелі і згасалі ў цёмным люстры лужын; адна з тых кропляў патрапіла за каўнер, я сьцепануўся і ў гэты момант Эмілія Міхайлаўна — наша клясная кіраўнічка — запаліла сьвятло.

23 лютага 1968 года, на школьным "агеньчыку" — правобразу сёньняшняй маладзёвай дыскатэкі, — я ўпершыню пачуў Валерыя Абадзінскага.

Трыццаць два гады мінула з тае пары, шмат што выпетрылася з памяці, а сіні лютаўскі адвячорак і дагэтуль жыве ў здранцьвелых нэйронах і кожнага разу, калі гучыць "Усходняя песьня", нос мой казыча напаўзабыты пах таннай парфумы, уваччу паўстаюць сінія школьныя вокны, і цела, пазбыўшыся цяжару мінулых гадоў, становіцца лёгкім, і душа на кароткае імгненьне сьцепанаецца, як сьцепаналася яна той хвіляй, калі — усё на тым жа "агеньчыку"—дзяўчына з паралельнага клясу запрашала мяне на танец.

Увесну 1968-га салодка-ўедлівы голас Абадзінскага лунаў у кожнай падваротні. Ён вырываўся з разнасьцежаных вокнаў інтэрнатаў, скаланаў паветра танцпляцовак, заежджана сіпеў і заікаўся ў аддзелах грампласьцінак культтаварных магазынаў. Ля аддзелаў заўсёды тоўпіліся вясковыя дзяўчыны, якія кожнага разу пыталіся ў прадаўшчыцы: — Абадзінскага прадаеце? — і прадаўшчыца, ставячы — у соты раз на дзень — на казённы прайгравальнік "Усходнюю песьню"— з уздыхам адказвала: — Гэта мая пласьцінка."

Увесну 1968 года голас Валерыя Абадзінскага апанаваў прастору, стаў, поруч з азотам і тленам, кампанэнтам навакольнага паветра, ад якога ў тадышніх юнакоў і юначак сьціскаліся сэрцы і кружыліся галовы. І ў тую ж вясну я ўзьненавідзеў Абадзінскага.

Цяжка сказаць, як бы склалася маё жыцьцё, калі б у сакавіку 68-га я не сустрэў на вуліцы знаёмага хлопца і той не прапанаваў мне завітаць да свайго стрыечнага брата.

— Братан пласьцінку прывёз, ансамбля "Бітлз". Можам зайсьці, паслухаць.

Мы зайшлі, паслухалі і там жа, у братанавай кватэры, я выкуліўся з савецкай сыстэмы каардынат. Ліверпульскія мальцы адкрылі мне вочы на сьвет і я ўбачыў: усё ў маёй

краіне, у тым ліку і песьні Абадзінскага, — хлусьня і пошласьць.
— Пусть твердят, что пишет каждый в девятнадцать ле-ет...— сьпяваў Абадзінскі, а між тым самому сьпеваку было ўжо пад трыццаць. — Быць может мне ты скажешь "да"...— з цнатлівым прыдыханьнем выдаваў сьпявак, а сам, відаць, як і многія іншыя "майстры савецкай эстрады", лекаваўся ад ганарэі.
Зрэшты, выклікалі агіду ня толькі прымітыўныя тэксты песень, але й манэра выкананьня — "майстар савецкай эстрады" траха ня плакаў ад непазбыўнай тугі і манэру такую карцела назваць "курчамі на ўнітазе".
*Я пяць разоў набіраў і столькі ж разоў выкрэсьліваў з тэксту два апошніх абзацы. Юначыя асацыяцыі — рэч задужа суб'ектыўная, пагатоў, "de mortuis aut bene..." і ўсё такое. Аднак, падумаўшы, вырашыў пакінуць іх на паперы, бо бязь іх аповед выглядаў бы сацрэалістычна-кастрыраваным. І яшчэ адна абставіна прымусіла захаваць "суворы стыль" апавяданьня. Праз шмат гадоў — немаведама зь якой прычыны — мне прысьніўся Валеры Абадзінскі. Ён сядзеў на сасновых бярвеньнях, хутаўся ў зрэбнае дэмісэзоннае паліто, з прарэшкаў якога тырчэла шэрая вата, і зь вінаватай ўсьмешкай на твары глядзеў некуды ўдалячынь. Я спытаў у Абадзінскага — чаму ён плакаўся ля мікрафону — і сьпявак, усё з той жа вінаватай усьмешкай, адказаў:*
*— Жанчынам падабалася...— і, ні сказаўшы больш ні слова, даравальна паляпаў мяне па плячы.*

У 1969 годзе папулярнасьць Абадзінскага сягнула апагею: ягоныя, запісаныя на "саракапятках" гіты, разьляталіся па краіне і пад гэтую музыку маё пакаленьне любілася-кахалася, таўклося на танцпляцоўках і білася ў ваколіцах вясковых клюбаў. Абадзінскі сьпяваў пра "вочы насупрацьь", пра "неадпраўленае пісьмо", пра нейкую экзатычную Анжэлу і шчасьлівыя бацькі, пад уражаньнем абадзінчынай песьні, давалі гэтае імя сваім нованароджаным дачкам. Ну а некаторыя ягоныя песьні, такія, скажам, як гіт зь невыразнай назвай "Что-то случилось", аўтарства румынскага кампазытара Попы, наогул праймалі слабанэрвовую публіку да сьлёз. Аўтар быў сьведкам: дзяўчына, што сядзела поруч са мной на канцэрце, пад час выкананьня Абадзінскім згаданага гіта, зайшлася ад несуцешнага плачу.
На наступны год "gloria mundi" Валерыя Абадзінскага пачала паволі мінацца: на сцэну — у літаральным і пераносным сэнсе — выйшлі новыя куміры — вакальна-інструмэнтальныя ансамблі. Абадзінскага яшчэ круцілі на танцах і школьных вечарах, але рабілі гэта, хутчэй, па інэрцыі. Зрэшты, на вёсцы сьпявак у той год быў паранейшаму папулярны. Улетку 70-га мы, пяцёра хлапцоў, выправіліся пехатою з Нарачы ў Вільню і заначавалі на беразе Вяльлі, непадалёку ад Міхалішак. Акурат там месьціўся лягер "камсамольскага актыву" Астравецкага раёну. Мы, вядома, пазнаёміліся з тамтэйшымі камсамолкамі і зь нечуваным дагэтуль натхненьнем прасьпявалі ім пад гітару знакамітую на той час "Вэнэру". Дзяўчыны паслухалі, перашапнуліся і дрогкімі галасамі запыталі: — "А вы што-небудзь з рэпэртуару Абадзінскага ведаеце?" Пасьля таго мы падняліся на ногі, хітнулі галовамі і падаліся да сваіх намётаў.
А ў жніўні таго ж году давялося мне пабываць на танцах у Хвашнянскім вясковым клюбе Гарадоцкага раёну і дваццаць разоў за вечар пачуць абадзінскавае "Неадпраўленае пісьмо". "Саракапятка" была дарэшты заежджаная, у адным месцы сьпявак пачынаў заікацца і таму ля прайгравальніку сядзеў падшыванец, які мусіў перасоўваць гуказдымальнік у "заікастым" месцы. Калі-нікалі падшыванец не пасьпяваў гэтага зрабіць, Абадзінскі пачынаў заікацца і мясцовы "кароль танцаў", які кружляў па клюбе ў абдымках загадчыцы гэтага самага клюбу, кожнага разу азіраўся і з робленай суворасьцю гукаў падшыванцу:
— Мішка... натаўку!
У 1970 годзе Валеры Абадзінскі наведаў з гастрольнымі канцэртамі Беларусь. Да Наваполацку не даехаў, а вось у Віцебску гастраляваў і гастролі тыя спарадзілі шмат розных чутак і плётак. Называліся, у прыватнасьці, прозьвішчы нейкіх віцебскіх дзевак, зь якімі, нібыта, Абадзінскі сядзеў у рэстаране. Распавядалі яшчэ адну вусьцішную гісторыю пра тое, як падпіты сьпявак лез сярод ночы ў інтэрнат тамтэйшай музвучэльні. Гэтую гісторыю распавядалі розныя людзі, і ўсе яны адзначалі адну дэталь: Абадзінскі лез у інтэрнат у пакамечаным пінжаку.
Праз пару месяцаў пасьля гастроляў Беларускае тэлебачаньне паказала запіс сустрэчы з гастралёрам у тэлевізійнай студыі. Вяла сустрэчу дыктарка Людміла Старадумава.
— Валера, як вы прыйшлі на сцэну? — пыталася Людміла.
— Спачатку я сьпяваў у Масканцэрце, а потым мяне прыкмеціў Алег Лундстрэм, — адказваў Валера, наіўна маракуючы, што згаданае ім прозьвішча знаёмае беларускім тэлегледачам.
— А якая вашая ўлюбёная песьня? — пыталася дыктарка і сьпявак завучана адказваў: — Мая ўлюбёная песьня Анжэла... Я нават дачку сваю назваў Анжэла...
Я глядзеў тэлевізар, у вушах маіх гучалі песьні "Beatles"& "Rolling Stones" і рукі сьвярбелі ад палкага жаданьня запусьціць у блакітны экран рыплівым табурэтам.
Зрэшты, не я адзін хваравіта крывіўся, слухаючы Абадзін-

скага. Крывіліся і тадышнія партыйныя ідэолягі. І сьведчаньнем таму стаўся артыкул у "Правде", аўтар якога грунтоўна прайшоўся па рэпэртуары сьпевака, назваўшы яго пошлым і не адпаведным высокім крытэрыям савецкага мастацтва. Артыкул наогул быў напісаны бойка, спрытна і не бяз гумару. Праўдзіст, у прыватнасьці, параіў Абадзінскаму перарабіць радок "Усходняй песьні" і сьпяваць у рыфму:

"По ночам в тиши я пишу стиши..."

Атрымаўшы адпаведную дырэктыву, кінуліся выкрываць Абадзінскага і менскія газэты: "Знамя юности" прысьвяціла гэтай тэме цэлую газэтную паласу. Праўда, гэтым разам ганіўся не літаратурны бок рэпэртуару, а манэра паводзінаў сьпевака. Асабліва не спадабалася менскім газэтчыкам тое, што сьпявак, пад час выкананьня сваіх песьняў, сыходзіў са сцэны і ўкленчваў перад якой-небудзь кабецінай.

Артыкулы такія сьведчылі за адно: Абадзінскі чымсьці не дагадзіў уладам. "Не жадае, відаць, выконваць песень "грамадзянскага гучаньня", таму і мае праблемы", — падумаў я, адкінуўшы "Знамя юности", але свайго стаўленьня да сьпевака не зьмяніў. А неўзабаве Абадзінскі прыехаў у Наваполацак і мой сябрук, Сашка Мікуліч, падбіў схадзіць на канцэрт.

Народу ў залю набілася як завязаць — мы з Сашкам наогул сядзелі на апошнем радзе, — я слухаў абрыдлыя зонгі, дэманстратыўна пазяхаў у кулак і адно пытаньне не давала спакою: ці будзе Абадзінскі выконваць песьні "грамадзянскага гучаньня"? Праваруч ад мяне сядзела дзяўчына маіх гадоў, якая акуратна біла ў ладкі, пару разоў крыкнула зь месца: — Восточную! — а пачуўшы першыя акорды песьні "Что-то случилось", залілася несуцешнымі сьлязьмі. Відаць, у дзяўчыны з гэтай песьняй былі зьвязаныя нейкія асабістыя перажываньні — якія-небудзь любошчы на суседавай адрыне — вось яна і дала волю пачуцьцям.

Адну ПГГ Абадзінскі ўсёж такі прасьпяваў: "Баляду пра сьцяг" кампазытара Аркадзя Астроўскага, але гэтым справа і абмежавалася. Песьня тая мела выяўныя рысы пастмадэрнізму: забіты на полі боя жаўнер паўстаў зь мёртвых, абкруціўся палкавым сьцягам і рушыў на ворага. Пры гэтым, калі даваць веры аўтару словаў, "парня пуля не брала — сплющивалась пуля". Прыканцы Валеры прасьпяваў, па просьбах глядачак, "Усходнюю", сышоў, па старой завядзёнцы, са сцэны і ўкленчыў перад кабетай — казалі, што гэта была жонка дырэктара Палаца культуры, у якім ладзіўся канцэрт. Апошнія словы песьні: "Быть может мне ты скажешь "да" — Абадзінскі прасьпяваў, стоячы на каленях, а потым, калі музыка сьціхла, дадаў ад сябе асабіста: — Ну, скажи!

Жаночая аўдыторыя пасьля таго доўга шалела, мая суседка ад захапленьня нават сьціснула рукамі пахвіньне, а мы з сябрам суцішна мацюкнуліся і, абхаднымі дарогамі, рушылі на сцэну. Там жа, у дзьвярох, якія вялі на сцэну, мы і сутыкнуліся з Абадзінскім: у сьпевака, як я заўважыў, быў круглявы твар і пукатае чэрава, якое прыкметна вымалёўвалася пад аксамітнай канцэртнай апранахай. Абадзінскі бег пераапранацца, а ззаду за ім шыбаваў ударнік зь ягонага аркестру. Паміж сьпеваком і ўдарнікам адбываўся наступны дыялёг:

Ударнік: — Валера, когда вернёшь червонец?

Валера: — Да что ты заладил... Вернёмся домой — отдам червонец, да ещё и чувиху приведу...

Мяне, мараліста па натуры, такі прагматызм у дачыненьні да жанчын проста ашаламіў; я застыў у нерухомасьці і хтосьці з работнікаў сцэны, які выносіў вялізны бубен, усьпёр той бубен мне на галаву.

А потым Абадзінскі зьнік. Песьні ягоныя ўжо не круцілі на вечарах і танцпляцоўках, плякаты з размашыстым надпісам "Поёт Валерий Ободзинский" зьніклі з платоў і рэклямных тумбаў і пра сьпевака пачалі забывацца. Апошні раз ён даў аб сабе знаць, запісаўшы, падчас дубляваньня амэрыканскага фільма "Золата Макены", песьню пра грыфа. У вадрозьненьне ад песьні пра зайцаў, якую сьпяваў Ю. Нікулін, песьня пра грыфа нікога не ўразіла, а таму і не займела сваёй "саракапяткі".

Пасьля таго Абадзінскі зьнік канчаткова. Пра яго нават не згадвалі — толькі аднойчы, прыканцы сямідзесятых, прайшла чутка, што «кароль эстрады» канчаткова сьпіўся і, зрэдзьчасу, сьпявае ў адным з сочынскіх рэстаранаў.

Напярэдадні пахвалёнай Перастройкі я гасьцяваў у Піцеры, у стрыечнага брата і пэўнага дня, разам з братавым сябрам Лёвам Журавіным, выправіўся ў Царскасельскі парк. Там, вядома ж, падхапілі трох дзяўчын-- экскурсантак з Крывога Рогу -- і павялі іх у рэстарацыю, што месьцілася на беразе Кацярынінскай сажалкі. Укінуўшы па чарцы, хлопцы гукнулі кельнеру, каб той завёў які музон і неўзабаве пад высокімі скляпеньнямі залунаў знаёмы голас: "Три-и ме-еся-аца-а лета-а, три-и ме-е-ся-аца-а осе-ень..."

Пры першых жа гуках песьні брат скрывіўся, як ад зубнога болю, і здушана крыкнуў: — Да вырубите вы, ради бога...

Пасьля таго засьпяваў Малежык і адна з хахлушак неакрэсьлена запытала:

— А дэ він тэпэр?

— Хто? — перапытаў брат.

— Ободзінські.

— Працуе... вартаўніком на складзе, — прамармытаў Лёва Журавін, нетаропка жуючы шашлык.

Усе паглядзелі на Журавіна.

— Вартуюць, пазьменна, яшчэ з

адным алкашом, склад галянтарэйнай фабрыкі.
Я тым словам ня даў веры, а праз шмат гадоў, уключыўшы тэлевізар, убачыў на экране хваравіта тоўстага чалавека, які распавядаў, як ён, застаўшыся без капейкі, быў вымушаны пайсьці працаваць вартаўніком на галянтарэйную фабрыку. “Я і там сьпяваў, — казаў мужчына, — вып’ем, хлопцы папросяць, я ім і засьпяваю пад гітару.”
Я глядзеў на экран і не даваў веры ўласным вачам. Няўжо гэты азызлы таўстун — той самы Валеры Абадзінскі, пад салодкія сьпевы якога прайшла мая маладосьць, чые кружэлкі закручвалі да ікоткі і на канцэртах якога здушана плакалі жанчыны? Неўзабаве таўстун узяў мікрафон, засьпяваў і па целе майму прабегліся нэрвовыя дрыжыкі. На фоне безгалосых пэдзікаў, якіх дзень да ночы паказвала ГРТ, аксамітны тэнар падаўся мне голасам зь нябёсаў.

## ПАСТСКРЫПТУМ

Летась, выходзячы з рэдакцыі “Новай газэты”, у якой давялося змарнаваць сем гадоў жыцьця, пачуў “Усходнюю песьню”. Яна далятала аднекуль з парку і я міжволі прыцішыў крок.
— Абадзінскі, — з гордасьцю ў голасе паведаміў я дзяўчыне, якая таксама працавала ў рэдакцыі і зь якой мы разам ішлі на абед.
— Памёр нядаўна, — з уздыхам прамовіла дзяўчына.
— Як памёр? — пралепятаў я і толькі тады ўцяміў недарэчнасьць свайго пытаньня.
— Памёр... па тэлевізары казалі.
На твары маім адбілася нешта такое, што прымусіла дзяўчыну пасур’ёзьнець і ціхім голасам запытацца:
— Ён што, быў вашым сваяком?
— Ён быў часткай майго жыцьця, — адказаў я і дзяўчына пасьміхнулася, палічыўшы, відаць, што людзі майго ўзросту схільныя да сантымэнтаў.

*Вінцэсь Мудроў.*

# ДА НАС ПРЫЕХАЎ ВОЮШ



За апошнія паўтара дзесяцігодзьдзя з Наваполацка — у сталіцу і за мяжу — зьехала шмат творчых людзей. І сярод гэтай кагорты “эмігрантаў” прыкметна вылучаецца фігура Сержука Сокалава-Воюша: за той час, які ён правёў на экзылі, Сяржук прыкметна памажнеў. Гэтую асаблівасьць адзначылі сябры Супольнасьці “Ўсяслаў Чарадзей”, да якіх былы новапалачанін завітаў на сустрэчу.
Сокалаў-Воюш два гады ня быў у родных палестынах, і “чарадзейцам” цікава было ўведаць — як яму жывецца ў Празе і як маецца тамтэйшая беларуская калёнія. Падчас мінулай “пабыўкі” Сяржук шмат пра гэта распавядаў. Аднак цяпер сябры пабачылі не экспансіўнага і апанаванага беларускай справай паэта, якога ведалі дагэтуль, а стамлёнага саракадвух-гадовага мужчыну, якога, падобна, сёньняшнія грамадзкія праблемы мала абыходзяць. Адзінае, што яны пачулі, завітаўшы на сустрэчу, дык гэта тое, што ў Фр. Скарыны, помнік якому надоечы быў адчынены ў Празе, невядомыя зламысьнікі “вырвалі з рук” бронзавае пяро. Ну і, вядома ж, наш знакаміты зямляк прасьпяваў, заплюшчыўшы вочы, тузін песьняў з свайго мінулага рэпэртуару.
Пазіраючы на Сержука Сокалава-Воюша, “чарадзейцы” ўвачавідкі пераканаліся, што чужына й папраўдзе “сэрца джаліць, цісьне, як зьмяя”, але ўслых спачуваньняў ніхто не выказваў.
Дадамо, што на Бацькаўшчыну паэт і бард прыязджаў з сваёй сям’ёй — жонкай Ганнай і двума сынамі, якія, як адзначылі пра сябе “чарадзейцы”, мусяць вырасьці сапраўднымі людзьмі і сапраўднымі беларусамі.

**Альфрэд Хрушч.**

# У ЛІПЕНІ 1993-га



Сем гадоў таму, па загаду Масквы, быў скінуты з сваёй пасады Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Ст. Шушкевіч і гэта падзея сталася пачаткам камуна-імпэрскай Контрэфармацыі.

Партыйныя шэльмы, якія верхаводзілі ў Вярхоўным Савеце, выканалі загад Крамля і сьпікер парлямэнту мусіў падаць у адстаўку. Да сораму парлямэнцкай апазыцыі яна таксама брала чынны ўдзел у гэтай ганебнай акцыі, напоўніцу прадэманстраваўшы сваю палітычную недальнабачнасьць.

Тады, у ліпені 1993 года, мала хто дапяў да глыбіннай сутнасьці падзеі; ніхто ўсур'ёз, у тым ліку і апазыцыя, ня браў пад увагу інтэнцыі прарасейскага лёбі і падрыўную дзейнасьць расейскіх сьпецслужб. І толькі праз год, калі да ўлады прыйшлі контррэфарматары, стала зразумелая цана падобнай нядбайнасьці.

Зрэшты, сябры наваполацкай суполкі Беларускага Народнага Фронту ўжо тады ўсьведамлялі — якія працэсы пачаліся і добра разумелі, што адхіленьне ад улады сумленнага беларуса — гэта толькі першы этап шырокасумернага наступу на Беларушчыну. А таму, адзіныя ў рэспубліцы, сталі на абарону Ст. Шушкевіча, сфармаваўшы ініцыятыўную групу па збору подпісаў у падтрымку Старшыні Вярхоўнага Савету.

Вось вытрымкі з тэксту ліста, пад якім зьбіраліся подпісы:

"Палітычныя прайдзісьветы ў Вярхоўным Савеце пайшлі ў свой апошні і рашучы бой...

Гадунцы ленінскага камсамолу, камуністычнай партыі і Вышэйшай партшколы, якія ўбіліся на кіруючыя пасады яшчэ за брэжнеўскім часам, ізноўку спрабуюць узурпаваць уладу. У сваім памкненьні скінуць з пасады Станіслава Шушкевіча, яны навыперадкі аплёўваюць гэтага сумленнага чалавека, інкрымінуючы яму самыя неверагодныя палітычныя злачынствы.

Партыйна-гаспадарчая намэнклятура яшчэ пры ўладзе... Яна паранейшаму вядзе рэй у Вярхоўным Савеце і Савеце Міністраў, але яе часіны незваротна мінаюцца, бо гэтыя цёмныя піўныя бутэлькі нічога ня цямяць ні ў эканоміцы, ні ў палітыцы, ні, тым больш, у рынкавай гаспадарцы. Яны ўмеюць толькі адно: кіраваць і красьці..."

Дарэчы сказаць, новапалачане цалкам пагаджаліся з такімі словамі і за некалькі дзён пад лістом было сабрана некалькі сот подпісаў.

Грамадзкія настроі, якія панавалі на той час, люструе падборка бліц-інтэрвію, надрукаваных на старонках "Новай газэты".

"Пра Шушкевіча магу сказаць толькі адно: чалавек ён прыстойны, ураўнаважаны і не абы-які палітык. Апляваліі яго з ног да галавы. І зрабілі гэта тыя, каму гэта выгадна", — заўважыў інжынэр-мэханік Ю. Казлоўскі.

"Шушкевіча трэба берагчы як палітыка, як дзяржаўнага дзеяча, як чалавека. Ён робіць усё дзеля нашай роднай Беларусі, хоча каб мы жылі больш-менш нармальна. А тыя, хто пнецца яго скінуць, гэта, на маю думку, папросту ворагі народу", — сказаў новапалачанін В. Яцкевіч.

"Вярхоўны Савет я наогул не паважаю. Думаю, "краснопузым" ня месца ў парлямэнце. Часіны іхныя мінулі даўно і незваротна, а спробы партыйцаў рэстаўраваць былы рэжым нелягічныя і нерэальныя.

А Шушкевіч, я лічу, адзіны чалавек, які здольны штосьці зрабіць дзеля Беларусі", — работнік завода "Вымяральнік" Ул. Сільчанка.

"Шушкевіч мне падабаецца як палітык, а таму я паставіла подпіс у яго абарону",— Т. Чанцова, настаўніца.

"Шушкевіч — варты павагі чалавек і ён мне падабаецца. Дабрадушны, лагодны... І ні ў якім разе нельга дапусьціць, каб ён быў зьняты з сваёй пасады", — пэнсіянэр В. Сівіцкі.

"Трынаццаць гадоў прабыў на сьпецпасяленьні ў Кемераўскай вобласьці. Кінуты туды быў у васемнаццацігадовым узросьце. Так што на ўласнай шкуры зьведаў "вабноты" савецкай улады. Таму і паставіў свой подпіс за Шушкевіча",— пэнсіянэр А. Лашкоў.

Падводзячы вынікі мінулага дзесяцігодзьдзя, можна з поўным на тое правам сьцьвярджаць, што гэта быў для беларусаў час страчаных магчымасьцяў. Яшчэ ў 93-м годзе быў шанец авалодаць сытуацыяй, распачаць пабудову Беларускага дому... Шанец такі ня быў выкарыстаны.

***Здымак ліпеня 1993 года.***

***Сябры ініцыятыўнай групы зьбіраюць подпісы ў абарону Старшыні Вярхоўнага Савету Ст. Шушкевіча. Справа налева: А. Тумоўскі, Ул. Кунцэвіч, А. Васілеўскі, В. Мудроў.***

# УСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД: PRO ET CONTRA

*Калі зыходзіць з пастуляту, што усялякая апазыцыйная акцыя — гэта крок да дэмакратыі і незалежчыны, дык чарговы Усебеларускі зьезд, мяркуючы па сумернасьці мерапрыемства, крок болей чым далёкасяжны. І ўсёж... Колькі іх ужо было, падобных зьездаў, якія абвяшчаліся іх арганізатарамі эпахальнымі і лёсавызначальнымі, а Беларусь наша так ні на цалю і не прасунулася ў пазначаным накірунку. А таму, узважваючы магчымасьці і здольнасьці людзей, якія ўвайшлі ў аргкамітэт, і тое, што ў Менск зьедуцца тыя ж самыя дэлегаты, якія бралі ўдзел у папярэдніх кангрэсах, ёсьць падставы меркаваць, што і гэтым разам зь вялікага грому будзе малы дождж. Злыя языкі наогул сьцьвярджаюць, што згаданы зьезд праводзіцца з адною мэтаю: атрымаць пад яго халяўныя заходнія грошы. А паколькі халяўшчыкаў у дэмруху разьвялося як завязаць, і шмат заходніх грошаў пайшло далёка не на тыя мэты, на якія прызначаліся, вэрсія такая мае права на існаваньне. Заўважым у працяг тэмы, што калі б заходнія спонсары адмовіліся ад сваёй дабрачыннасьці, многія б зь сёньняшніх палымяных дэмакратаў смачна мацюкнуліся, кінулі за плот бел-чырвона-белы сьцяг і пайшлі шукаць якой іншай халявы.*

*Такімі сваімі развагамі мы зусім ня хочам кідаць цень на ўвесь дэмакратычны рух, але многім былым капээсэсаўцам і эксдзеячам лукашэнкаўскай адміністрацыі, якія плішчацца яго ачоліць, няма веры.*

Каб вызначыць стаўленьне сяброў Супольнасьці “Ўсяслаў Чарадзей” да згаданага мерапрыемства, рэдакцыя бюлетэня правяла міні-апытаньне і вось што пачула:

**АЛЕСЬ РЫМША:** “Ідэю правядзеньня Ўсебеларускага зьезду адназначна падтрымліваю. Нам, сьвядомым беларусам, трэба ўвесь час нагадваць пра сябе, казаць узурпатарам улады і ўсяму беламу сьвету: “Мы былі, мы ёсьць, мы будзем!” Можна шмат разважаць аб канкрэтнай карысьці падобных акцыяў, аднак адно тое, што яна атрымае міжнародны розгалас, што на ёй будуць рэпрэзэнтаваны карэспандэнты замежных мас-мэдыяў і тэлевізійныя кадры зьезду ўбачаць ва ўсім сьвеце — гэта ўжо карысьць.

І прыняцьцё Акту незалежнасьці — справа надзвычай актуальная, а то многія ўжо забыліся аб тым, што Беларусь — сувэрэнная краіна.

Скажу яшчэ адно: у народзе ўзьнік інтарэс да зьезду. Да мяне ўчора заходзіў сусед, які дагэтуль нічым такім не цікавіўся. Пытаецца: што там у Менску адбудзецца? Я яму растлумачыў. А сёньня падышоў да газэтнага шапіку, бачу, жанчына бярэ “Народную волю”, разгортвае і кажа: “Ці ёсьць што пра зьезд?” Так што народ усур’ёз зацікавіўся палітыкай і гэта мяне радуе.”

**АЛЕН:** “Як бы там ні было, а зьезд — справа карысная. У мяне ёсьць канкрэтныя прапановы датычныя самой тэхналёгіі яго правядзеньня. Па-першае, ён не павінен замкнуцца ў сьценах залі паседжаньняў. Пасьля заканчэньня зьезду яго дэлегаты — усе як адзін — мусяць пайсьці на пляц Незалежнасьці і правесьці там мітынг у вабарону незалежнасьці краю. Апроч таго, кожны зь іх мусіць даць адзін даляр на сьвятую беларускую справу і сабраныя грошы павінны стацца першым унёскам у фонд пад умоўнай назвай “Незалежнасьць”. Мы мусім стварыць такі нацыянальны фонд, бо вялікія справы без вялікіх грошаў ня робяцца.”

**ВАСІЛЬ ХРАМЦОЎ:**
“Я асабіста не магу сказаць адназначна: варта праводзіць зьезд, ці не. Магу толькі пажадаць ягоным удзельнікам зрабіць усё дзеля кансалідацыі дэмакратычнага руху. Праўда, у той жа час, я не сілкую ілюзіяў і перакананы, што кансалідацыі дасягнуць ня ўдасца, бо зьявілася зашмат розных “правадыроў”, якія пнуцца заняць вышэйшы дзяржаўны пост, ня маючы на тое ні адпаведнага розуму, ні адукацыі, ні шарму. І спадзявацца, што гэтыя “правадыры” створаць палітычны альянс няма падставаў. Ды і ці варта ствараць такія альянсы з тымі, хто да нядаўняй пары дапамагаў Лукашэнку нішчыць парасткі дэмакратыі ў нашай краіне? Я ня супраць таго, каб гэтыя людзі бралі ўдзел у зьезьдзе, але садзіць іх у прэзыдыюм аніякім чынам нельга.”

**УЛАДЗІМЕР КУНЦЭВІЧ:** “Лічу, што час дзеля правядзеньня зьезду абраны няўдала. Палітычная сытуацыя ў краіне абвайстраецца і падобную акцыю варта б было праводзіць у пік такога абвайстрэньня, а менавіта: напярэдадні парлямэнцкіх выбараў.

Спрэчным бачыцца мне і прыняцьцё чарговага Акту незалежнасьці. Калі цягам аднаго дзесяцігодзьдзя прымаць па два такіх акты, можна лёгка дэвальваваць саму ідэю незалежнасьці. Ёсьць АКТ 25 САКАВІКА — і гэтага даволі.

Што яшчэ мяне турбуе, дык гэта праблема прадстаўніцтва на зьездзе ўсіх рэгіёнаў Беларусі і рэпрэзэнтацыя там усіх слаёў нашага грамадзтва. Ёсьць небясьпека, што ў залі чарговым разам зьбярэцца ўсё той жа “дэмакратычны бамонд” і ўсё скончыцца чарговым скалананьнем паветра ў закрытым памяшканьні. Зьезд павінен выліцца ў штосьці неардынарнае, а іначай яго й няварта праводзіць.”

**V.M.**

# “Княжыч” на Беласточчыне.

***Сёлета, у купальскую ноч, беластоцкія беларусы арганізавалі ў мястэчку Нарва вялікі рок-фольк фэст, на які, сярод іншых беларускіх калектываў, быў запрошаны і наваполацкі фальклёрны гурт “Княжыч”. Аб тым, як прайшоў фэст і што на ім было цікавага нам распавёў удзельнік сьпеўнага гурта Сяржук Балай.***





Купальскі фэст ладзіўся ў ваколіцах Беластоку чацьвертым разам, а непасрэдным яго арганізатарам быў беластоцкі “Зьвяз Беларускай Моладзі”. Апрача нас на імпрэзе прысутнічалі вядомыя на Беларусі гурты: “Krivi”, “Новае неба”, “Уліс”, NRM, рок-каманда “Z”, а таксама прадусэр Алесь Памідораў з сваім калектывам. Адразу скажу, што выступ “Княжыча” — а мы рэпрэзэнтавалі аўтэнтычны фальклёр — выклікаў у беластоцкай публікі калі не фурор, дык, прынамсі, шчырае захапленьне. Асабіста я не чакаў такой рэакцыі публікі: пасьля кожнай нашай песьні грымелі воплескі, а некаторыя людзі больш сталага веку нават прасьлязіліся.

Сам фэст праводзіўся ў мястэчку Нарва (30 км на паўднёвы ўсход ад Беластоку), на беразе аднайменнай рачулкі. Народу там, па маіх падліках, сабралася ня меней двух з паловай тысяч, і Купальле сталася сапраўднай падзеяй у жыцьці тамтэйшых беларусаў. Дарэчы сказаць, людзі ў нараўскім навакольлі гамоняць па-беларуску і нават гандлярка ў мясцовай краме абслугоўвала нас з родным словам на вуснах.

Купальская дзея не абмяжоўвалася толькі музычным фэстам: гарэла традыцыйнае вогнішча, па рэчцы плылі вянкі, ну і, вядома, ужо пад раніцу, адбылася сяброўская бяседа за кухлем хмельнага беластоцкага піва.

Адзначу яшчэ адну дэталь: фэст шырока асьвятляўся электроннымі мас-мэдыямі. Свае рэпартажы рабілі тут TV Polonia, POLSAT, TV Bialystok, Radio Bialystok і Radio Racja. TV Bialystok наогул зьняў пра нас цэлы фільм. Дзяўчынам з “Княжыча” давялося ня толькі сьпяваць купальскія песьні, але й плесьці перад тэлекамэрамі вянкі, пускаць іх па вадзе, вадзіць карагоды ды ладзіць традыцыйныя купальскія ігрышчы.

Арганізатары сёлетняй імпрэзы паабяцалі запрасіць нас на “Купальле-2001”, а мы, у сваю чаргу, прапанавалі беластоцкім братам арганізаваць на наступны год сапраўднае Купальле, якое б грунтавалася на строгіх канонах паганскай абраднасьці. І такая прапанова была гаспадарамі сустрэта з энтузіязмам. Так што мы разьвіталіся з беластоцкімі хлопцамі і дзяўчатамі не на доўга.Праз год над Беласточчынай ізноў залунаюць нашыя песьні — сведчаньне неўміручасьці беларускай душы.


Інфармацыйнае выданьне
Грамадзкага Аб’яднаньня Культурніцка-Асьветніцкіх Ініцыятываў “УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ”.
Распаўсюджваецца на правах рукапісу.
Адрэса для допісаў:211440.Наваполацак-8,п\с № 26

Рэдакцыйная Рада: Вінцэсь Мудроў, Васіль Храмцоў, Уладзімер Кунцэвіч.